ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і мастацтва

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

№ 72 (1709) | Пятніца, 7 верасня 1962 года | Цана 4 кап.

## РАЗМОВА АБ МОЛАДЗІ

5 верасня г. г. у Саюзе пісьменнікаў БССР адбыўся адкрыты партыйны сход, прысвечаны вынікам трэцяга Пленума ЦК КПБ. З дакладам аб задачах беларускай савецкай літаратуры па выхаванню моладзі выступіў старшыня праўлення СП БССР П. У. Броўка.

У спрэчках па дакладу прынялі ўдзел А. Адамовіч, А. Русецкі, Ф. Яфімаў, І. Грамовіч, Р. Барадулін, І. Шамякін, А. Яскевіч, М. Аляксееў, Я. Усікаў, Б. Сачанка, А. Асіпенка, В. Каваленка, К. Крапіва, Р. Бярозкін, П. Васілеўскі.

У рабоце сходу прыняў удзел і выступіў з прамовай сакратар ЦК КПБ т. Шаура В. Ф.

Падрабязная справаздача аб сходзе будзе змешчана ў адным з бліжэйшых нумароў нашай газеты.

## КОНКУРС НА ЛЕПШЫЯ ПЛАКАТЫ

Дзяржаўнае выдавецтва выяўленчага мастацтва (Масква) аб'явіла адкрыты конкурс на лепшыя мастацкія плакаты па прапагандзе рашэнняў XXII з'езда КПСС. У гэтым конкурсе могуць прыняць удзел усе мастакі Савецкага Саюза.

Перад мастакамі ставіцца задача паказаць у плакатах велічныя перспектывы і планы стварэння матэрыяльна-тэхнічнай базы камунізма. гераічную працу савецкіх людзей. якія ажыццяўляюць гістарычныя прадвызначэнні новай Праграмы КПСС, выхаванне савецкіх людзей у духу калектывізму і працавітасці, захаванне прынцыпаў маральнага кодэкса будаўніка камунізма, выкладзеных у Праграме КПСС і г. д.

Апошні тэрмін прадстаўлення плакатаў на конкурс — 10 кастрычніка 1962 года.

5 верасня з Масквы ў Мінск праездам прыбылі генеральны сакратар Французскай камуністычнай партыі тав. Марыс Тарэз і член Палітбюро Французскай камуністычнай партыі Жанета Вермерш, якія знаходзіліся на адпачынку ў Савецкім Саюзе.

Таварышы Марыс Тарэз і Жанета Вермерш знаёміліся з выдатнымі мясцінамі сталіцы Савецкай Беларусі. Яны пабывалі ў раёне забудовы жылых дамоў, якія прылягаюць да Волгаградскай вуліцы, агледзелі гістарычныя помнікі.

Ля будынка Малой Беларускай чыгункі юныя мінчане цёпла віталі дарагіх гасцей. Госці агледзелі выстаўку макетаў машын і прыбораў, зробленых юнымі тэхнікамі. Вучаніца 20-й сярэдняй школы Наташа Касаткіна расказала аб жыцці і вучобе мінскіх школьнікаў, аб іх імкненні мацаваць дружбу з дзецьмі ўсяго свету. Марыс Тарэз падзякаваў піянерам за гасцінны прыём і пажадаў ім поспехаў у вучобе і шчасця ў жыцці.

Госці наведалі Дом-музей Першага з'езда РСДРП. Каля музея Марыс Тарэз сустрэўся з групай французскіх турыстаў — актывістаў таварыства «Францыя — СССР», якія радасна віталі генеральнага сакратара Французскай камуністычнай партыі, выдатнага рэвалюцыйнага дзеяча, барацьбіта за інтарэсы французскага народа.

**На здымку:** Марыс Тарэз сярод піянераў на дзіцячай чыгунцы.

Фота **Ул. Лупейкі.** (БЕЛТА).



МАЯКІ КУЛЬТУРНАГА ФРОНТУ

## СЦІПЛЫ, ПРАЦАВІТЫ, ІНІЦЫЯТЫЎНЫ

Быў час, калі Васіль Карнаван, шукаючы сваё месца ў жыцці, спачатку вучыўся на краўца, а пасля — на шаўца-мадэльшчыка. Толькі і першая і другая прафесіі былі яму не да душы. Хлопец імкнуўся больш уведаць, а цяжкасці першых пасляваенных год спынілі вучобу на паўдарозе. Трэба было самому зарабляць на хлеб, памагаць хворай маці, удаве салдата, гадаваць малодшага брата.

Нешта амаль паўгода працаваў Васіль памочнікам кінамеханіка. Ніхто яму за гэта ў той час грошай не плаціў, сам прыходзіў, бо клікала сэрца і гаварыла: вось ты, нарэшце, і знайшоў тое, што шукаў. Тут, Васіль, тваё сапраўднае прызнанне. Цяпер усё залежыць ад цябе: старайся, браце,— і ўсе сакрэты тэхнічнай мудрасці раскрыюцца перад табой.

Дзяўчына-кінамеханік заўважыла, што Васіль кемлівы хлопец, да ўсяго сам даходзіць. Усё часцей стала яна пакідаць яго аднаго ля апарата. Гэтыя хвіліны былі ў той час, бадай, самымі шчаслівымі для яго.

Хутка ў аддзеле культуры даведаліся пра поспехі Васіля і прапанавалі яму здаць экстэрнам экзамены на права кінамеханіка. Што ж, здаць дык здаць, ён даўно гатовы, хоць сам не асмельваўся пра гэта сказаць. І вось радасць— экзамены паспяхова вытрыманы! Карнавану даручылі прыняць апаратуру ў Брожы, дзе ён нарадзіўся і вырас.

Першага верасня 1952 года — першы самастойны сеанс ужо не вучня, а сапраўднага кінамеханіка. Дзень гэты ніколі не забудзеш. Здавалася, што не музыка фільма запоўніла хату, дзе ён ставіў сеанс, а ўласнае сэрца спявала і радавалася.

За першай перамогай прыйшлі адразу няўдачы і расчараванні. Як да вялікага свята рыхтаваўся ён да свайго самастойнага сеанса. А вынік які? Прыйшлі толькі адны дзеці і нікога з дарослых.

— Што ж мне такое зрабіць, каб і моладзь, і жанкі, і мужчыны хадзілі ў кіно, — думаў Васіль. Пануры вяртаўся ён позна дадому. А маці тым часам даводзіла сваё:

— Кінь, сынок, гэтую забаўку... Хто на вёсцы будзе паважаць кіншчыка. Не прыйшоў яшчэ той час. Лепш садзіся боты шый ці гарнітур які змайстраваў бы. Так хутчэй заробіш якую капейку, — угаварвала яна сына.

Маці Васіль не паслухаў, хоць ва ўсім іншым быў добрым сынам.

Цяжка было працаваць у той час. Клуба не было, даводзілася прасіць, каб хто з калгаснікаў пусціў ставіць фільм у хаце. А ўзлуецца гаспадыня — не пусціць, і нічога ты ёй не зробіш, хоць даўно ўсё падрыхтаваў да пачатку сеанса. Зноў тады шукай другую хату, зноў устанаўлівай і правярай апаратуру. Нечакана выклікалі ў аддзел культуры.

— План, таварыш Карнаван, не выконваеш, — дакараў загадчык аддзела. — Папярэджваю, будзеш і далей так працаваць, звольнім з работы. І план у цябе невялікі — 1800 рублёў на месяц. Ты малады і цягнешся ў хвасце.

Як толькі скрозь зямлю не праваліўся ў тую хвіліну Васіль. Чырвань заліла твар, ад сораму вочы не мог узняць. Так хінулася душа да работы і раптам — катэгарычнае папярэджанне: «звольнім».

Уся істота запратэставала супраць гэтай «галавамыйкі». Накрычаць, вядома, лягчэй, а ты, таварыш начальнік, лепш памажы ды падкажы, як арганізаваць сеанс у такіх умовах. Але тут жа сам сябе дакараў: сапраўды ж дрэнна працую, плана не выконваю. А некаторых жа хвалілі...

Кінуўся за парадай да настаўнікаў, што жылі і працавалі ў Макаравічах і Орсічах. Тыя паспачувалі, паабяцалі памагчы. Дамовіліся, што перад сеансам яны будуць праводзіць кароткія гутаркі на надзённыя тэмы, раскажуць і пра фільм, які прывёз кінамеханік. У сельсавеце абяцалі памагчы транспартам.

Правільна гаворыць прымаўка: хто стукае — таму адчыняюць. Заварушыўся хлопец, і адразу з'явіліся памочнікі. Ды і сам даляў, што трэба вызначыць пэўныя дні і гадзіны пачатку сеансаў у кожнай вёсцы. А так ніхто не ведае, калі прывязе кінамеханік фільм: то ён у аўторак завітае, то ў чацвер, а то раптам у суботу.

Быў распрацаваны графік дэманстрацыі фільмаў. Цяпер усе жыхары ведалі, што ў клубе лесаўчастка кіно ставіцца па нядзелях, у Макаравічах — у аўторак, Орсічах — у сераду, Брожы — па пятніцах. Гледачы так прывыклі да гэтага распарадку, што ўжо ніякай рэкламы не трэба, самі прыходзяць у кіно.

Аднойчы зайшоў Карнаван на фермы да жывёлаводаў, вырашыў запрасіць іх на сеанс. А яны і наляцелі на хлопца.

— Якое там кіно? — крычала адна з даярак. — Мы і раніцаю, і днём, і ў вечары на ферме. — А потым, зухавата падміргнуўшы, прапанавала: — А што, бабанькі, давайце кінем-рынем усё, няхай яно спрахне, і ўвечары, як адна, пойдзем у кіно. Ці ж мы горшыя за другіх?..

— Так, вядома, нельга рабіць, — хвалюючыся гаварыў кінамеханік, ужо не рады, што зачапіў вострых на язык жанчын. — Давайце лепш прыдумаем іншае выйсце. А што, калі я да вас буду спецыяльна прыязджаць. Будзеце глядзець кіно ці не?

— Хто ж ад добрага адмовіцца, — дружна адказалі даяркі.

З таго часу Карнаван стаў частым госцем на фермах. А ў час сенакосу выязджаў з апаратурай на лугі, дзе працавалі калгаснікі. Настаўнік ці загадчык клуба гутарку невялічкую правядзе, а ён, механік, фільм пакажа.

Гэта была навіна на ўсю рэспубліку. Хутка яе перанялі і ў іншых раёнах.

І са школьнікамі таксама справу ўладкавалі. Па дамоўленасці з настаўнікамі механік арганізоўвае спецыяльныя сеансы для дзяцей, заўсёды ахвотна ўлічвае іх заяўкі.

Дачуўся Васіль Карнаван, што нехта з кінамеханікаў рэспублікі перад сеансам праігрывае пласцінкі. Добрую справу прыдумалі хлопцы. Паспрабую і я. Няхай павесяліцца моладзь, патанцуе, а пажылыя людзі добрую песню паслухаюць. Васіль меў свой патэфон, пласцінкі, і пачаў наладжваць канцэрты па заяўках. Цяпер, як бывае ў Бабруйску, заўсёды новую пласцінку прывязе. У клубе сталі наладжвацца кінавечары: тут табе і невялічкі даклад, і маленькі канцэрт з любімых твораў, а ў заключэнне фільм можна паглядзець. Гэта спадабалася гледачам, у кіно стала больш прыходзіць дарослых і нават старых людзей.

Паступова наладжвалася справа. Спачатку дзённая выручка ледзь-ледзь даходзіла да 60 рублёў, потым — 75, а цяпер яна складае 100—120 рублёў (у старых грошах).

І калі бываюць якія нарады ў аддзеле культуры ці ў вобласці або ў Мінску, імя Васіля Карнавана заўсёды ставяць у прыклад. Так прыйшла да чалавека працоўная слава, заваяваная нястомнымі пошукамі новага. Прэзідыум Вярхоўнага Савета БССР яшчэ ў 1955 годзе ўзнагародзіў Васіля Карнавана Граматай Вярхоўнага Савета БССР, мае ён граматы і ад Міністэрства культуры і абласнога ўпраўлення. Яму прысвоена званне «Лепшы кінамеханік рэспублікі».

Кінамеханік — чалавек, які нясе ў гушчы народных мас святло культуры і ведаў, памагае партыі выхоўваць актыўных будаўнікоў камуністычнага грамадства. І толькі ўсвядоміўшы гэтыя высокія задачы, ніколі не будзеш працаваць абыякава, сумленне не дазволіць.

Кажуць жа, адзін у полі не воін. Мала чаго зрабіў бы кінамеханік, каб не трымаў ён цеснага кантакту з мясцовымі партыйнай, камсамольскай і прафсаюзнай арганізацыямі саўгаса «Бабруйскі», каб не было ў яго ў кожнай вёсцы шчырых сяброў кіно. Вось сакратар камсамольскай арганізацыі Брожскай сярэдняй школы настаўнік Юрый Кісліцкі. Ён — правая рука кінамеханіка: і фільмы для дзяцей падбярэ, і паможа правесці сеанс для школьнікаў, і новую пласцінку набудзе. Сярод першых і надзейных памочнікаў Карнавана старшыня сельсавета Пётр Тоўсцік, загадчык клуба Анатоль Мышак, пенсіянер Еўлан Зайцаў, настаўнік Рыгор Парахневіч, вучні старэйшых класаў Леанід Сухамлін, Мікалай Нікітка і многія іншыя. У кожнай вёсцы, дзе ставіць сеансы кінамеханік, ёсць памочнікі.

Кінамеханік Карнаван — паважаны чалавек у сельскім Савеце. Жыхары аказалі яму высокае давер'е — у трэці раз яго выбралі дэпутатам Савета. Энергічны, ініцыятыўны, ён стаў завадатарам многіх карысных спраў. У мінулым годзе вакол клуба разбілі малады парк. Кінамеханік сам ездзіў у лес па маладыя ліпкі і кусты. А яшчэ дамовіўся з бульдазерыстамі і трактарыстамі. На грамадскіх асновах хлопцы прывялі ў парадак дзве вуліцы вёскі.



Дружна працуюць кінамеханік Карнаван з памочніцай Мазур. І што самае галоўнае, працуюць яны рытмічна: з месяца ў месяц выконваюць і перавыконваюць планы. Вось толькі адзін прыклад. Сёлета ім трэба паставіць 80 сеансаў сельскагаспадарчых і хранікальна-дакументальных фільмаў, а ўжо да першага верасня рабочыя саўгаса пабывалі на 86 спецыяльных сеансах. Перавыконваюцца планы дэманстрацыі фільмаў для дзяцей.

Кінамеханік Карнаван абавязаўся гадавы план выканаць за дзесяць месяцаў. Слоў сваіх на вецер ён не кідае. План сямі месяцаў ён выканаў больш чым на 130 працэнтаў. За гэты час паставіў на 68 сеансаў і абслужыў на 5.052 гледачы больш, чым прадугледжвалася.

**Вось так жыве і працуе на дзіва сціплы і чулы да чалавека сельскі кінамеханік. Ён любіць сваю работу, даўно сябруе з кнігай і песняй. Ён поўны новых задум і планаў.**

**Заваяваць працоўную славу нялёгка, яшчэ цяжэй застацца такім жа сціплым, такім жа працавітым і шчырым чалавекам, якім ты быў, пакуль пра цябе ніхто не ведаў.**

**Я. ДАНСКАЯ.**

## Яна з „Гомсельмаша"

У Палацы культуры завода «Гомсельмаш» ішоў канцэрт мастацкай самадзейнасці. Сваё майстэрства паказвалі людзі, якія яшчэ некалькі гадзін таму назад стаялі ў цэхах за станкамі, збіралі сіласаўборачныя камбайны.

— Выступае выканаўца народных песень Тамара Цітова, — паведаміў вядучы.

У зале адразу ўсталявалася цішыня. І плаўна паплыла песня «Вечаркам за рэчкаю». Ласкавы, малады голас кранаў за душу кожнага.

У заводскі харавы калектыў Тамара Цітова прыйшла яшчэ будучы вучаніцай шостага класа. І калі настаў час выбіраць дарогу ў самастойнае жыццё, яна пайшла працаваць на завод.

Рэпертуар гэтай спявачкі багаты і разнастайны: звыш 50 рускіх і беларускіх народных і сучасных песень.

Завод стаў для яе родным домам. На заводзе Тамару Цітову прынялі ў члены Камуністычнай партыі. Заводскі калектыў вывеў яе на шырокую жыццёвую дарогу, дарогу працы і песень.

**В. СЯМЁНАЎ.**

## ДА СВЯТА СЯБРОЎ

Дзень вызвалення Балгарыі ад фашысцкага прыгнёту адзначаецца балгарскім народам як нацыянальнае свята. Разам з балгарамі святкуюць і працоўныя Савецкай Беларусі. Да гэтай даты Мінскі кінатэатр «Зорка» разам з Савецкім раённым Таварыствам па распаўсюджванню палітычных і навуковых ведаў арганізаваў вечары, на якіх чытаюцца лекцыі і паказваюцца балгарскія кінакарціны. Так, днямі для наведвальнікаў кінатэатра была прачытана лекцыя «У дружнай сям'і сацыялістычнай садружнасці». Затым дэманстраваўся фільм «Закон мора». Пасля лекцыі «Святочная Сафія» паказалі карціну «Любімы нумар трынаццаць». Запланаваны лекцыі «Старажытная Балгарыя», «Новыя людзі Балгарыі», «Дружба навекі». Пасля іх будуць паказаны фільмы «Сям'я Герака», «Малышка», «Ветраны млын» і інш.



**Пры Мінскай абласной бібліятэцы імя Пушкіна працуе міжбібліятэчны абанемент, які абслугоўвае бібліятэкі вобласці і чытачоў - завочнікаў. Сёлета абанементам карысталася 216 бібліятэк, якім было выслана 2610 экземпляраў кніг. Усе запатрабаванні бібліятэк і завочных чытачоў аператыўна выконваюць загадчык кнігасховішча Г. Падрэцкі і супрацоўніца абанемента А. Ліхачова. Цяпер яны рыхтуюць чарговую літаратуру для адпраўкі чытачам.**

Фота **М. Рубінштэйна.**

## РЭПЕРТУАР — ГЭТА АСНОВА

**Я. РАМАНОВІЧ**

У апошнім інфармацыйным спісе драматычных твораў, які выдае Усесаюзнае ўпраўленне па ахове аўтарскіх правоў, змешчаны анатацыі на чатыры беларускія п'есы. Тры з іх пастаўлены нашымі тэатрамі. Гэта — «Крыніцы» І. Шамякіна і Ю. Шчарбакова (Тэатр імя Якуба Коласа), «Пад адным небам» А. Маўзона (Рускі дзяржаўны тэатр БССР імя М. Горкага) і «Дзіўны дом» П. Васілеўскага (Брэсцкі абласны тэатр імя ЛКСМБ і Бабруйскі драматычны тэатр). Чацвёртую п'есу «Без п'едэстала» М. Алтухова, пакуль што ніхто не паставіў. Даводзіцца пашкадаваць, што і цікавая новая п'еса Р. Раманава «Да спаткання, Зямля» таксама не прынята ў рэпертуар тэатраў Беларусі.

Вядома, выбар п'есы — справа не простая. Тут мала нават адчування часу драматургам, надзённасці тэмы, цікавасці жанра твора. Кожная новая п'еса ў рэпертуары мае на мэце далейшае развіццё ідэйна-творчай лініі калектыву, наяўнасць у ім акцёраў-выканаўцаў роляў і адпаведнай рэжысуры. Калі рэжысёр не зацікавіцца п'есай і яна не натхніць яго — добрага спектакля не атрымаецца. Але п'еса павінна спадабацца не толькі рэжысёру, а і ўсяму творчаму калектыву. Інакш у акцёраў будзе не творчы, а вузка прафесіянальны падыход да працы.

Кіраўніцтва Рускага драматычнага тэатра імя М. Горкага, а таксама Гродзенскага тэатра могуць, напрыклад, сказаць, што п'еса Р. Раманава не знайшла станоўчай ацэнкі ў рэжысуры, або не спадабалася артыстам і таму не была прынята да пастаноўкі. Рэпертуар, як вядома — справа тэатра, і тут не можа быць ніякага адміністрацыйнага ўздзеяння. Аднак, сапраўднае майстэрства рэжысёра ў тым і заключаецца, што ён больш за іншых павінен бачыць не толькі тое, што ў п'есе ёсць, але і што ў ёй можа быць. Калі б Я. Міровіч убачыў у п'есе «Гута» Р. Кобеца толькі тое, што ў ёй было, і не дапамог пачынаючаму тады аўтару дапрацаваць яе. то выдатнага спектакля не атрымалася б. Або калі б рэжысёр Ю. Шчарбакоў абмежаваўся тым матэрыялам, які быў у першым варыянце п'есы А. Звонака «Навальніца будзе», высокамастацкага сцэнічнага твора ў тэатры імя Якуба Коласа мы б не мелі.

Жыццё паказвае. што там, дзе на чале мастацкага кіраўніцтва тэатра стаяць вопытныя майстры рэжысуры і ёсць здольная акцёрская моладзь, там адкрываюць новых драматургаў і новыя п'есы, там раскрываецца творчая своеасаблівасць калектыву. А калі справамі тэатра займаюцца людзі, пазбаўленыя жывой ініцыятывы, халодныя саматужнікі або дзялкі-адміністратары, — рэпертуар паўтарае ўсім вядомыя п'есы, не ўлічвае адпаведнасць профілю калектыву, або мае на мэце толькі камерцыйны бок, які псуе эстэтычныя густы савецкага гледача.

Навошта было Бабруйскаму драматычнаму тэатру, які выступае пераважна перад калгасным сялянствам, ставіць камедыю-вадэвіль «Курортнае знаёмства» Віннікава і Крафта або сцэнічны фельетон Нарыньяні «Небяспечны ўзрост» на тую ж курортную тэму пры наяўнасці змястоўных і вясёлых камедый, больш блізкіх запатрабаванням калгаснага гледача. Я не збіраюся раіць Бабруйскаму тэатру абмяжоўваць свой рэпертуар толькі калгаснай тэматыкай. У ім могуць і павінны быць разнастайныя п'есы як па зместу, так і па жанрах. Але кожны тэатр, калі ён хоча быць мастацкі своеасаблівым, павінен не механічна, а глыбока патрабавальна адбіраць для пастаноўкі новыя п'есы, зыходзячы са сваіх прынцыповых творчых пазіцый.

Нашы абласныя тэатры часта, нібы дамовіўшыся паміж сабою, ставяць аднолькавыя па назвах п'есы («Крэдыт у Нібелунгаў», «Провады белых начэй», «Гульня без правілаў»). якія ідуць у большасці тэатраў Савецкага Саюза. У той жа час, новыя арыгінальныя п'есы К. Губарэвіча, В. Палескага, І. Мележа, А. Звонака, П. Данілава застаюцца па-за ўвагай нашых творчых калектываў. Не ўсе гэтыя п'есы з'яўляюцца бездакорнымі. Але пры пэўнай працы рэжысёраў з драматургамі маглі б атрымацца патрэбныя нашаму гледачу спектаклі.

Праўда, не кожны рэжысёр умее працаваць з драматургам над яго творам. Гэта справа складаная, і рэжысёру нельга рабіць усё на свой капыл, падпарадкоўваць усё свайму густу. Неабходна ўлічваць творчую індывідуальнасць аўтара, яго стыль, мову. Так, рэжысёр А. Яраў, які ставіў п'есу А. Маўзона «Пад адным небам» у Рускім тэатры імя М. Горкага, улічыў асаблівасці драматургіі аўтара і дапамог зрабіць сцэнічны варыянт п'есы, чым спрыяў з'яўленню папулярнага спектакля.

На жаль, рэжысёр Брэсцкага тэатра Г. Волкаў не здолеў як след адрэдагаваць п'есу П. Васілеўскага «Дзіўны дом», і спектакль атрымаўся з невыразнай ідэяй, нязграбнай мовай, напоўненай рознымі таннымі, безгустоўнымі афарызмамі. І рэжысёр Ю. Арынянскі не дапрацаваў п'есу Я. Пасава «Чалавек за бортам». У спектаклі штучны фінал, слаба паказаны камсамольскі актыў школы, хоць у цэлым сцэнічны твор пакідае станоўчае ўражанне. Гэтыя п'есы пры ўважлівым іх рэдагаванні могуць быць выкарыстаны для пастаноўкі і ў народных тэатрах і самадзейных калектывах.

Попыт на новыя сучасныя п'есы ў тэатрах рэспублікі настолькі вялікі, што калі драматург больш-менш трапна аб нечым расказаў, у яго літаральна выхопліваюць з рук твор і ўключаюць у рэпертуар. А іншы раз кан'юнктуршчык-рэжысёр абы толькі паказаць на сцэне спектакль па беларускай п'есе, не дае аўтару патрэбнага часу больш глыбока яе прадумаць, дапрацаваць і палепшыць. Такім чынам перад гледачом дэманструецца спектакль-паўфабрыкат.

Умацаванне тэатраў новай рэжысурай — справа, якая даўно наспела і выклікана самім жыццём. Нельга было далей мірыцца з пасіўнасцю рэжысёрскай думкі, якая назіралася ў тэатрах рэспублікі за апошнія гады. Запрашэнні вядомых рэжысёраў з Масквы на адну пастаноўку ў год не могуць задаволіць творчых патрэб тэатра, тым больш, што гастралёры з прычыны паспешлівасці не заўсёды ствараюць спектаклі высокай мастацкай якасці.

Прыход у Акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы на пасаду галоўнага рэжысёра Ю. Шчарбакова будзе спрыяць паляпшэнню творчай дзейнасці старэйшага тэатральнага калектыву рэспублікі. У Ю. Шчарбакова багаты вопыт супрацоўніцтва з беларускімі драматургамі і шырокія, даволі цікавыя рэпертуарныя планы.

У оперным спектаклі «Заручыны ў манастыры» С. Пракоф'ева паспяхова дэбютаваў новы галоўны рэжысёр Тэатра оперы і балета Д. Смоліч. Яго работа сведчыць аб высокай прафесіянальнай культуры пастаноўшчыка, аб вострым адчуванні жанра і тонкім мастацкім гусце. Д. Смоліч зацікавіўся новай операй беларускага кампазітара Я. Глебава «Твая вясна».

Тэатр юнага гледача ўзначальвае таксама новы галоўны рэжысёр Б. Дакутовіч, дзейнасць якога адзначана ўдумлівай, цікавай пастаноўкай вельмі складанай сатырычнай камедыі Ул. Маякоўскага «Клоп». Калектыў ТЮГ'а працягвае развіваць добрыя традыцыі супрацоўніцтва з беларускімі пісьменнікамі. Ён мяркуе паказаць спектакль па новай п'есе В. Зуба «Марат Казей» — аб юным героі Вялікай Айчыннай вайны. Тэатр збіраецца працаваць над п'есамі: «Бітва ў космасе» М. Гамолкі, «Перапалох у вялікім доме» М. Сергіевіча, «Зорка Венера» Б. Бур'яна і М. Алтухова, «Якою сцежкаю ідзеш» А. Вольскага і П. Макаля.

У рэпертуарных планах Тэатра імя Якуба Коласа, дзе галоўным рэжысёрам прызначаны Б. Браганцаў, — аднаўленне спектакля «Раскіданае гняздо» і пастаноўка ў новай сцэнічнай рэдакцыі п'есы Якуба Коласа «Вайна вайне». Коласаўцы пачалі працаваць з пісьменнікам М. Сергіевічам над сатырычнай камедыяй «Смех і толькі».

У размовах на тэатральныя тэмы мы рэдка ўспамінаем Дзяржаўны тэатр лялек. Гэта, мабыць, таму, што яго мала ведаюць дарослыя гледачы. А між тым ён робіць вялікую справу, несучы мастацкае слова ў гарадскую школу і вясковы калгасны клуб. Працуючы трыма мастацкімі групамі, тэатр падарожнічае па ўсёй рэспубліцы, не мінаючы самых далёкіх куткоў. Тэатр адзначыў 40-годдзе піянерскай арганізацыі цікавым спектаклем «Хлопчык з Княжвозера» па п'есе Б. Браусевіч. І ў гэтым тэатры ствараецца свой аўтарскі калектыў беларускіх драматургаў. Пасля паспяховай інсцэніроўкі казкі Зм. Бядулі «Сярэбраная табакерка» М. Алтухоў напісаў для тэатра новую п'есу «Цвёрды арэшак». Беларускія паэты А. Вольскі і П. Макаль перадалі тэатру п'есу «Марынка-крапіўніца».

Якія бліжэйшыя прэм'еры новага сезона?

Купалаўцы паставяць п'есу «Сябры і гады» Л. Зорына і класічную камедыю А. Астроўскага «На ўсякага мудраца хапае дурасці». Летась у Тэатры імя Янкі Купалы выйшла пастаноўка драмы К. Сіманава «Чацвёрты».

Рускі тэатр імя М. Горкага пазнаёміць мінчан з прэм'ерай «Дзень нараджэння Тэрэзы» Г. Мдзівані — аб гераічнай Кубе і сучаснай п'есай М. Пагодзіна «Вернасць».

Брэсцкі тэатр пакажа камедыю Ц. Саладара «Любоў не дарue», Гомельскі — спектакль «Блакітная рапсодыя» М. Пагодзіна, Гродзенскі — камедыю Аля і Ракава «Небяспечней за ворага». З'явяцца прэм'еры і па класічных творах.

Абласныя тэатры яшчэ слаба працуюць з беларускімі драматургамі. Часта ставіцца тое, што паказана ўжо на мінскай сцэне. А калі некаторыя тэатры і праяўляюць пэўную смеласць, як, напрыклад, Бабруйскі тэатр, які часта першым ставіць новыя п'есы («Любоў, Надзея, Вера», «Дзіўны дом», «Злавацца не трэба»), — то іх скараспелы выпуск не заўсёды падмацаваны належнай мастацкай якасцю.

У рэпертуары тэатраў мала п'ес драматургаў братніх рэспублік і краін народнай дэмакратыі, спектакляў для дзяцей.

Не задавальняецца попыт і на сучасную камедыю — вельмі любімы народам жанр.

У нашай рэспубліцы даўно наспела неабходнасць мець хоць бы адзін музычна-драматычны тэатр. Па выступленнях Бабруйскага перасоўнага калгасна-саўгаснага тэатра відаць, з якой ахвотай наведвае глядач музычныя спектаклі. Нездарма Бабруйскі тэатр рыхтуе цяпер музычную камедыю «Вяселле ў Маліналўцы» А. Аляксандрава. Мабыць, гэты тэатр і варта было б ператварыць у музычна-драматычны.

Беларускі народ любіць меладычную музыку, сардэчную песню. Нам здаецца, што Тэатр оперы і балета мае магчымасць на сваёй асноўнай базе стварыць філіял для выступленняў у мінскіх клубах, дзе можна паказваць сучасныя і класічныя музычныя драмы і камедыі, даваць канцэрты пры ўдзеле салістаў тэатра.

У рэспубліцы занядбана стварэнне музычна-драматычных п'ес. Неабходна гэтую традыцыю ўзнавіць, але на больш высокім узроўні. Старыя гледачы добрым словам успамінаюць спектакль «На Купалле» М. Чарота ў пастаноўцы першага Беларускага дзяржаўнага тэатра (цяпер Акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы) з меладычнай музыкай Ул. Тэраўскага. Гэты спектакль доўгія гады з поспехам паказваўся на сцэне тэатраў рэспублікі і ў Маскве. Калі будзе створаны філіял опернага тэатра, то праз пэўны час з'явяцца і новыя музычныя драмы і камедыі на сучасныя тэмы.

Наша савецкае тэатральнае мастацтва прасякнута жыццесцвярджальнымі ідэямі камунізма. Яно з'яўляецца моцнай зброяй ідэйнага і эстэтычнага выхавання людзей. Валодаючы незвычайнай сілай эмацыянальнага ўздзеяння на гледача, тэатр заклікан быць крыніцай радасці і натхнення для народа. Ён стане такім, калі рэпертуар яго будзе больш змястоўным, багатым глыбокімі думкамі і высакароднымі ідэаламі нашага часу, калі яшчэ лепш умацуюцца сувязі сцэнічнага мастацтва з жыццём.

